

№ 17 (130)
Май 2006 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года


## У нумары:



***З гэтага нумара «Краязнаўчая газета» пачынае друкаваць матэрыялы, прысвечаныя падрыхтоўцы да фестывалю «Берагіня», заключны этап якога павінен адбыцца ў г.п. Акцябрскі Гомельскай вобласці ў чэрвені 2006 года.***

***Фестываль арганізаваны з дапамогаю Акцябрскага райвыканкама, Гомельскага аблвыканкама, Міністэрстваў адукацыі і культуры, Беларускага фонда культуры. Інфармацыйную падтрымку фестывалю аказвае у тым ліку і «Краязнаўчая газета».***

***«Берагіня» – унікальная з'ява, бо яна скіравана на дзяцей, на іх выхаванне на глебе нацыянальных традыцый, музыкі, песні, танца. Асноўнай ідэяй фестывалю, на мой погляд, з'яўляецца захаванасць этнакультурнай адметнасці беларусаў.***

***Уладзімір ГІЛЕП,***
***старшыня Беларускага фонда культуры***

(Умовы на стар. 5)



## Вадасховішча – сметніца?..

Вось і надышла вясна. Яна звалілася на галовы беларусаў халоднымі дажджамі. І хаця сонца з кожным днём прыпякае ўсё гарачэй, зіма яшчэ нейкі час нагадвала пра сябе.

Сезон рыбнай лоўлі афіцыйна быў прыпынены 10 красавіка. Але гэта не значыць, што рыбакоў нельга было ўбачыць на вадаёмах. Яны з'яўляліся на азёрах і вадасховішчах, пакуль лёд не пачне прэста правальвацца. А разам з рыбакамі на лёдзе з'яўляецца ўсё больш смецця. Ужо не першы тыдзень на Вілейскім вадасховішчы можна назіраць жудасную карціну. Снег растаў, і на чыстым лёдзе з'явіліся выспы смецця. Гэта – і пустыя бляшанкі з-пад кансерваў, і цэлафанавыя мяшэчкі, і недапалкі, і бутэлькі – вынікі жыццядзейнасці рыбакоў. Растаў лёд, усё сыходзіць пад ваду. Гэта проста экалагічная праблема. Без таго засмечанае Вілейскае вадасховішча вымушана кожны год паглынаць не адзін кілаграм смецця. Колькі тое будзе яшчэ працягвацца – невядома. Трэба ратаваць вадаём!

***Сяргей МАКАРЭВІЧ,***
***студэнт журфака БДУ***

*«Мова – гэта вялікі народны скарб. Яе нельга не паважаць, як нельга не паважаць родны народ».*

***Іван МЕЛЕЖ***




# «Ты жывы, а мы ўжо не ўстанем, дык раскажы пра нас жывым!»

***Гэтыя словы сталі дэвізам шматэтапнага паходу вучняў з 97-й мінскай школы па месцах баёў партызанскай брыгады «Дзядзькі Колі», якая дзейнічала ў палікскім лясным масіве Барысава-Бягомльскай зоны ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны.***

***Свяшчэнныя гэтыя мясціны! Тут жылі і змагаліся сыны і дочкі нашай Радзімы.***

***Помнікі, брацкія магілы партызан на зямлі каля возера Палік – сведчанне жорсткіх баёў з заклятым ворагам, сведчанне стойкасці і мужнасці нашых людзей у цяжкі для Радзімы час.***

Хлопчыкі і дзяўчынкі, прывычныя да гарадскога асфальту, зрабілі доўгі шлях пешшу (больш за 260 км) сумесна са сваім нястомным класным кіраўніком Людмілай Дзмітрыеўнай Капытковай – даследчыцай, чалавекам неабыякавым да гісторыі свайго краю. Паходы праходзілі ў розныя поры года: і зімой, і восенню, і вясной, і летам. Прычым ісці, у літаральном сэнсе – прабіраццa прыходзілася па сапраўдным балоце, пераскокваючы з купіны на купіну. У дзяцей узнікала адчуванне, быццам яны апынуліся ў іншым часовым вымярэнні: у тыя далёкія «франтавыя, парахавыя». На нейкі час, забыўшыся, што яны з'яўляюцца звычайнымі вучнямі, дзеці ўяўлялі сябе юнымі партызанамі, якія ідуць на баявое заданне. Яны адчулі рэальнасць гісторыі і тое, што самі з'яўляюцца яе творцамі. Вось чаму яны ў дадзенны момант менавіта тут: каб убачыць, пазнаць і расказаць іншым такім самым хлопчыкам і дзяўчынкам пра падзеі той грознай вайны.

Незабыўнае ўражанне на ўдзельнікаў паходу аказала наведванне імі помнікаў вёсак, спаленых фашыстамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны (Іканы, Ганцавічы, Мсціж, Зембін, Скупліно, Карсакавічы, Лісіно, Новае Сяло, Будзенічы, Рудня). А пасля гутаркі з жывымі сведкамі тых жудасных падзей вучні вырашылі ў час чарговага этапу паходу прайсці па гэтых мясцінах і прывесці могілкі ў парадак, тым самым аддаць даніну памяці ўсім загінулым 60 гадоў таму ў імя нашага жыцця і свабоды.

Падчас гутарак з мясцовымі жыхарамі – удзельнікамі вайны (У.В. Капытковым, Н.К. Капыток, А.Ф. Бурам і інш.) дзеці даведаліся пра існаванне музея «Партызанскай Славы» у гарадскім пасёлку Іканы. Наведаўшы музей падчас зімовых канікул, дзеці больш падрабязна даведаліся аб гісторыі стварэння і дзейнасці партызанскай брыгады «Дзядзькі Колі».


*«Тужлівая маці» ў палікскім лесе*

(Заканчэнне на стар. 2)





# Новае імя,

## альбо Беларускі след у Ашгабаце

*Шкада, што не мае працягу выданне «Літаратурныя мясціны Беларусі». Першы том мяркуемага 3-томніка, прысвечаны Брэсцкай, Віцебскай, Гомельскай абласцям, выклікаў шырокі рэзананс.*

*У свой час (на старонках «ЛіМа») я ўжо згадваў пра віцебскія «белыя плямы» «Літаратурных мясцін Беларусі». Назваў тады імёны «забытых» землякоў-літаратараў, а таксама тых пісьменнікаў, якія, хаця і нарадзілася ў розных мясцінах, але жылі, працавалі ў Віцебску, на Віцебшчыне. Працягваючы пэўныя росшукі, хацеў бы нагадаць яшчэ пра аднаго літаратара.*

13 мая 1894 года ў вёсцы Букмуйжа Рэжыцкага павета Віцебскай губерні нарадзіўся цюрколаг, лінгвіст, этнограф, фалькларыст Аляксандр Пятровіч Пацалуеўскі. У 1920 годзе Рэжыцкі павет адышоў да Латвіі, таму, згодна з адміністрацыйна-казённай логікай, Пацалуеўскі, выходзіць, што і не зямляк. Але ж...

Ва ўсіх сваіх біяграфіях Аляксандр Пятровіч падкрэсліваў, што нарадзіўся ў сям'і настаўніка-беларуса. У 1914 годзе скончыў Віцебскую гімназію. Паступіў у Лазараўскі інстытут усходніх моў (у Маскве). Спецыялізаваўся на турэцкай, персідскай, арабскай мовах. Атрымаў падрыхтоўку па французскай і англійскай.

У снежні 1918-га Аляксандр вяртаецца ў Віцебск. Працуе педагогам-лектарам Віцебскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага інстытута. Пасля – выкладчыкам Віцебскага губернскага аддзела адукацыі. Безумоўна, за плячыма – адукацыя, якая настройвала на большае. І будучы вучоны не мог не ўзрадавацца, атрымаўшы запрашэнне з Сярэдняй Азіі – ад Службы асветы Сярэднеазіяцкай чыгункі. 3 кастрычніка 1923 года наш зямляк – у Ашхабадзе (так у савецкія часы называўся Ашгабат). У Туркменіі Пацалуеўскі выкладае персідскую, а з часам і туркменскую мову ў самых розных навучальных установах.

У 1927 годзе Аляксандра Пятровіча запрашаюць у Інстытут туркменскай культуры. Ужо ў 1929 годзе Пацалуеўскі выдае вучэбны дапаможнік «Кіраўніцтва для тых, хто вывучае туркменскую мову». Сочыць Аляксандр Пятровіч і за развіццём маладой туркменскай літаратуры. У 1930 годзе ў № 3 часопіса «Туркменазнаўства» выходзіць яго артыкул «Працы туркменкульта ў галіне мовы і літаратуры». Гэта быў час, калі яшчэ толькі пабачылі свет першыя кнігі на туркменскай мове – п'еса Б. Абдуліна, вершы Б. Кербаева, некалькі калектыўных зборнікаў.

Для студэнтаў-філолагаў (а з 1931 года Пацалуеўскі выкладае ў Ашхабадскім педінстытуце) Аляксандр Пятровіч чытае курс паралельнай граматыкі туркменскай і рускай моў. У 1933 годзе вучоны становіцца загадчыкам кафедры туркменскай мовы і агульнага мовазнаўства. З 1940-га паралельна са згаданай займае і пасаду загадчыка сектара мовы ў Інстытуце гісторыі, мовы і літаратуры Акадэміі навук Туркменістана.

Мне ўдалося знайсці адну з навучэнак Аляксандра Пятровіча – доктара філалагічных навук Яўгенію Мікалаеўну Яршову. Перазвоньваемся з ёю, лістуемся. Яўгенія Мікалаеўна яшчэ да вайны (дакладней – у 1941 годзе) скончыла СШ № 1 г. Ашхабада. Пасля – філфак, на якім выкладаў Пацалуеўскі. Разам з вопытным выкладчыкам студэнты ездзілі запісваць фальклор. Яўгенія Мікалаеўна (яна і зараз жыве ў сталіцы Туркменістана) згадвае вандроўку ў аул Нахур. У 1944 годзе Пацалуеўскі надрукаваў у часопісе «Совет эдибияты» грунтоўны артыкул «Туркменская народная творчасць». Дарэчы, у адным нумары з артыкулам «Пра прымаўкі туркменскага народа» Юрыя Алешы, які знаходзіўся ў Ашхабадзе ў эвакуацыі.

– Загінуў Аляксандр Пятровіч падчас землятрусу, які здарыўся 6 кастрычніка 1948 года, – згадвае Яўгенія Мікалаеўна.

Дарэчы, Ашхабад – сапраўды беларускі літаратурны горад. Паблізу туркменскай сталіцы служыў беларускі празаік Аркадзь Марціновіч. У Ашхабадзе пісаў сваю «Аповесць для сябе» Барыс Мікуліч (яго родная сястра, оперная спявачка Вольга Юшкевіч, таксама загінула ў землятрусе). З туркменскім краем звязаны лёсы паэтаў Любові Турбіной, Любові Філімонавай, Міхася Карпенкі. У Ашхабадзе ў розныя часы жылі беларускія пісьменнікі Васіль Ткачоў, Мікола Калінковіч.

*Кастусь ЛАДУЦЬКА*

# Сучасныя беларускія краязнаўцы

*Матэрыялы да слоўніка*

**Скараход** Віктар Іванавіч (н. 04.01.1924, в. Слабада Докшыцкага р-на Віцебскай вобл.), працаваў настаўнікам. Скончыў Маладзечанскі настаўніцкі інстытут (1952) і Мінскі педінстытут (1971). Краязнаўствам цікавіцца з 1954 г. Вывучае партызанскае змаганне на Бягомльшчыне ў Вялікую Айчынную вайну, народную творчасць, гісторыю вёсак былой Вітуніцкай воласці. Аўтар артыкулаў ў час. «Маладосць», «Полымя», газеце «Родныя вытокі» (Докшыцы).

**Скобла** Міхась Уладзіміравіч (н. 23.11.1966, в. Палежын Зэльвенскага р-на Гродзенскай вобл.), пісьменнік. Скончыў філалагічны факультэт БДУ (1991). Служыў у Савецкай Арміі. З 1991 працаваў нам. галоўнага рэдактара часопіса «Роднае слова». Краязнаўствам займаецца з 1995 г. Настаўнікамі лічыць Г. Каханоўскага, К. Цвірку. Вывучае беларускія мястэчкі.

Тв.: Дзярэчынскі дыярыуш. Мн., 1999.



*В. Скараход*



*М. Скобла*

## *Шчыры дзякуй!*

*Кіраўнікам фермерскай гаспадаркі Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці Кацярыне Фёдараўне і Міхаілу Рыгоравічу Шрубам.*

*Вы, шаноўныя, падтрымалі дзіцячы тэатр «Дрыгавічы», яго новую праграму «Нашчадкі Кірылы», якая ўпершыню паказвалася ў вясковым Доме культуры. Таксама Вы дапамаглі фінансава правесці свята вёскі Хільчыцы падчас ушанавання працавітых людзей зямлі. І цяпер кніга «Народныя гульні, карагоды, танцы», якая падрыхтавана грамадскім аб'яднаннем «Беларускі фонд культуры» і «Краязнаўчай газетай», знайшла Вашу падтрымку.*

*Моцы Вам, добрых ураджаяў! Хай квітнее родны край палешукоў, багацее Бацькаўшчына!*

***Мікола КОТАЎ,** пастаноўшчык праграмы «Нашчадкі Кірылы», аўтар кнігі «Народныя гульні, карагоды, танцы»*

# З любоўю – пра Шацк і ад яго жыхароў

Пры Шацкай бібліятэцы працуе клуб «Крыніца». Нядаўна тут прайшла прэзентацыя кнігі Алеся Карлюкевіча «Ігуменскі блакнот». Ёсць у ёй артыкул «Жыве ў Шацку праведнік» пра нашага земляка Міхася Міхайлавіча Тарасевіча, які з каменя зрабіў тры помнікі ахвярам фашысцкай акупацыі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Акрамя сяброў клуба, на мерапрыемстве прысутнічалі М.М. Тарасевіч і запрошаныя госці. З уступным словам выступіла загадчыца бібліятэкі Марыя Іванаўна Лапцэвіч, якая каротка прааналізавала творчасць А. Карлюкевіча і паказала выставу кніг, што выдаў гэты пісьменнік. Вядома, асоба спынілася на той, якая стала нагодаю для сустрэчы. Далей слова ўзяла настаўніца гісторыі і замежнай мовы Шацкай сярэдняй школы краязнавец Наталля Мікалаеўна Вайцяховіч. Яна напісала шэраг кніг пра нашы мясціны, нядаўна выйшлі «Мае землякі», да друку рыхтуюцца «Краязнаўчыя вандроўкі». Шмат словаў прызнацсці сказала яна пра А. Карлюкевіча, да якога звярталася па дапамогу, атрымлівала слушныя парады, за што ўдзячная.

Затым выступіў М.М. Тарасевіч, які расказаў, як узнікла ідэя зрабіць помнікі ахвярам фашысцкага разбою, як ажыццяўлялася задума. Урэшце, як прыязджаў журналіст і краязнавец Карлюкевіч ды падтрымліваў яго, пісаў матэрыялы пра ягоную высакародную працу. Асабліва ўдзячны Міхась Міхайлавіч за тое, што журналіст у сваёй новай кнізе прысвяціў некалькі старонак яму, радавому працаўніку. А таксама расказаў пра стварэнне помнікаў. Першы, са знойдзенага валуна, усталяваў непадалёк ад Апельні. У гэтым урочышчы на Шацка фашысцкія каты расстралялі шмат людзей. Па дабраславенне майстра ездзіў у Мінскую епархію. Наступны помнік прысвяціў памяці шацкіх настаўнікаў, расстраляных захопнікамі напачатку вайны. Шмат часу патрабавалася, каб знайсці іх імёны і прозвішчы. Памятную стэлу вянчае высечаная Тарасевічам з каменю разгорнутая кніга. Трэці помнік – у памяць невядомага салдата, пахаванага на могілках вёскі Задашчэнне (3 кіламетры ад Шацка). У пачатку вайны цяжка параненага савецкага воіна ў ляску каля могілак знайшла вясковая жанчына. Яна употайкі перацягнула яго дадому. Хацела вылечыць. Але салдат памёр. Пахавала яго і ўсё жыццё даглядала магілку. Дапамагалі ёй вучні Задашчэнскай школы. І вось на магіле паўстаў помнік, на якім высечаны надпіс: «Невядомы абаронца зямлі нашай. Загінуў у 1941 годзе. Жыццё кароткае, Айчына вечная». Наверсе помніка – пілотка з зорачкай, выробленая з каменю.

Сябры клуба «Крыніца» і госці – Лідзія Міхайлаўна Давыдоўская, Тамара Іванаўна Ткачова, Таццяна Мікалаеўна Лапцэвіч – з павагаю расказалі аб прачытаных кнігах і газетных артыкулах Алеся Карлюкевіча.

Лічу, што А. Карлюкевіч – выдатны пісьменнік, журналіст, краязнаўца, нястомны шукальнік новага. Чытаючы «Ігуменскі блакнот», здзіўляюся, як можна так ахапіць і апісаць розныя аспекты жыцця, працу нашых простых землякоў, інтэлігенцыі, гісторыю не толькі Пухавіцкага раёна, але і былога Ігуменскага павета. Артыкулы прасякнуты вялікай павагаю і любоўю да людзей. Ён паказвае вытокі, карані нашай духоўнай спадчыны.

***Яніна ШЭЛЕГ,** ветэран педагагічнай працы, в. Шацк Пухавіцкага раёна*

# «Ты жывы, а мы ўжо не ўстанем, дык раскажы пра нас жывым!»

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)**

Вайна нікога не пакінула абыякавым. З кожным паходам у хлопчыкаў і дзяўчат узрастала цікавасць да падзей ваенай пары, якія адбываліся на гэтай легендарнай зямлі.

У выніку паходаў былі сабраныя матэрыялы аб дзейнасці брыгады «Дзядзькі Колі», аб партызанах-героях. Створаная рукамі вучняў мультымедыйная прэзентацыя была перададзена ў Іканскі музей «Партызанскай Славы», у школьны музей гарадскога пасёлка Ганцавічы, у музей школы № 97 г. Мінска «Героі жывуць побач». А ў музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны былі перададзеныя знойдзеныя экспанаты: скрыня для патронаў і стары прас.

Аб гісторыі сваёй Радзімы можна даведацца з кніг, фільмаў, наведвання музеяў. Вучні самі збіраюць гісторыю па крупінках: з гутарак са сведкамі, з наведвання памятных мясцін, з удзелу ў святах партызан.

У ходзе пошукавай працы змяніўся светапогляд вучняў і іх адносіны да падзей Вялікай Айчыннай вайны. Кожны з іх адкрыў для сябе новыя старонкі гісторыі Айчыны.

Праца будзе працягвацца і далей, бо гісторыя патрабе беражлівых адносін да сябе: яшчэ шмат помнікаў маюць патрэбу ў рэстаўрацыі, шмат чаго пра вайну яшчэ невядома.

Зараз вучні 97-й школы распрацоўваюць турысцкі маршрут па гэтых памятных мясцінах.

***Ірына ЗАБІРКО,** настаўніца гісторыі і бібліятэкар СШ № 97 г. Мінска*



*Брацкія могілкі каля Будзеніч*

*Кароткі слоўнік*
# краязнаўча-прававой тэрміналогіі
*беларускай старажытнасці*



**(Пачатак у № 3 за 2005 г.)**

**«ПЕРАВОД ПРАВА»** – вынясенне рашэння ў судаводстве ВКЛ, паводле якога вызначалася таксама ўласна судовае рашэнне – вырак, дэкрэт і інш. Станоўчае рашэнне, што выйшла ў выніку падману ці падтасавання доказаў аднаго з бакоў (пры адсутнасці іншага), Статут 1588 г. вызначаў тэрмінам «злый перевод права». Калі падман выкрываўся, вінаватага каралі штрафам ці турэмным зняволеннем, ранейшае рашэнне суда скасоўвалася.

**ПЕРАКАНАЦЬ ПРАВАМ** – даказаць віну праз суд. Вялікі князь ВКЛ прысягаў пры яго абранні, што ніхто не будзе зняволены ў турму, пакараны, калі віну не дакажа суд. Гэта было замацавана ў Статуце 1588 г.

**ПЕРАСУД** – плата суддзі і падсудку за разгляд пэўнай грамадзянскай справы. Памер яе, што плаціў бок, які выйграў справу, залежаў ад сумы іску.

**ПІСАР** – службовец (спачатку сціплага паходжання, пазней шляхціц) у дзяржаўным і судовым апараце ВКЛ, які спачатку складаў і перапісваў афіцыйныя паперы, а пасля выконваў і больш складаныя задачы. У XVI ст. у ВКЛ вышэйшае становішча ў справаводстве займалі пісары вялікакняжацкія і дзяржаўнай канцылярыі (пісары вялікія, скарбовыя, польныя і інш.). Пісары былі таксама пры земскіх, замкавых і іншых судах.

Пісары вялікія бралі ўдзел у падрыхтоўцы праектаў прававых актаў, якія потым выносілі на абмеркаванне сейма, выдавалі ад імя вялікага князя. Пэўны ўклад пісары зрабілі ў распрацоўку Статутаў. Сярод іх шмат вядомых асоб, у тым ліку і Л. Сапега (1583–1623). Многія з іх пазней занялі высокія пасады (Л. Сапега стаў канцлерам вялікім літоўскім, з 1621-га ваяводам віленскім). Статут патрабаваў, каб пісар быў пісьменны. Пры заняцці пасады пісары прыносілі прысягу, у якой абавязваліся сумленна выконваць свае абавязкі, захоўваць службовую тайну, не злоўжываць службовым становішчам, не выдаваць без падстаў дакументы і інш.

Пісары замкавыя прызначаліся ваяводамі. Як і суддзяў, пісараў земскіх выбіралі з мясцовых шляхціцаў-землеўладальнікаў хрысціянскага веравызнання. Судовыя пісары павінны былі запісваць змест спраў, што разглядаліся ў судах, вялі рэестры (судовыя кнігі), выдавалі копіі дакументаў. Земскі пісар захоўваў павятовую пячатку і сведчыў з яе дапамогай неабходныя дакументы. Паміж судовымі сесіямі судовыя пісары перапісвалі начыста пратаколы судовых пасяджэнняў у спецыяльныя кнігі. За сваю працу яны атрымлівалі пэўную плату: за запіс позвы, унясенне заяў і скаргаў у кнігу, складанне копіі судовай пастановы. Пісары на час выканання імі службовых абавязкаў ахоўваліся законам, за абразу ці гвалтоўныя дзеянні супраць іх прадугледжвалася павышаная крымінальная адказнасць.



*Грэнадзёр пешай гвардыі войска ВКЛ 1792–94 гадоў (малюнак Ю. Герасімовіча)*

***Факультатыў***

# Свет ад травы да зор

**Цыкл урокаў «Беларуская паэзія: сістэма вобразаў прыроды, паэтыка пейзажу»**

## «Ідзі, вясна, красуйся...»

*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 13–16)*

У вершы Петруся Макаля «Песні зярнят» «зялёнае ўваскрэсенне» руні – гэта не проста прыродна-біялагічнае дзейства, а менавіта самаахвярнае сцвярджэнне жыццёнараджальнай існасці роднай зямлі, тая дыялектыка пераўвасаблення свету, што робіць яго неўвядальным і вечным. Зярняты таму і напружваюць свае сілы, каб узняцца «жытняй калыскай другога жыцця»:

*Мы, ахвяруючы*
*моўчкі сабою,*
*Падаем, каб прарасці*
*збажынай.*
*Поле сяўбы – поле бою,*
*Што адраджаецца*
*кожнай вясной.*

Квітненне – пара сапраўднага ўздыму, росквіту духоўна-творчых сіл чалавека. Нездарма вясновае квітненне роднай прыроды нарадзіла ў паэта Пімена Панчанкі жывапісную ўяву касмічнага краявіду – сад, дзе «будучь прываблівa цвіцці» яблыні юнацтва і маладосці. Квітненне паўстае як сімвал неўвядальнасці быцця ў Васіля Зуёнка: «Тады – усе любуйцеся! І верце ў знак наканаванасці прыроды. У гэту квецень і ў сваё бессмяроцце, Якое тут – цяпер і назаўсёды» («Як хочацца падпільнаваць імгненне...»). «Чаромха! Пахам сум зрывай...» – поўны ўлюбёнасці ў маладосць вясны гучыць голас Р. Барадуліна («На маладзі пачатак мая»). Прыгажосць заўсёды вабная і дзівосная. Таму свет вясновых кветак і цвету выклікае пачуцце цуду, вялікую душэўную асалоду ў вершах «Сады зацвілі...» Анатоля Вялюгіна, «Бэз цвіце...» Юрася Свіркі.

З другой паловы 1980-х гадоў тэма вясны набыла новае гучанне – глыбока трагедыйнае ў сваёй аснове. Паслухаем, як гучыць матыў прылёту птушак у вершы Ніны Мацяш:

*Вы жывыя! Вярнуліся!*
*Нейк амаглі*
*Пашчу стронцыю,*
*продань дарогі!..*
*Жураўенькі-журайкі мае,*
*журайлі,*
*Сцяг вясны над палескай*
*разлогай!*
*У Чырвоную кнігу*
*занесены вы,*
*Бо, як людзям,*
*не заўжды спрыяе*
*Вам паветра айчыны,*
*наш кут векавы,*
*Дзе зламыснасць*
*любові научае.*
*(«Вяртанне жураваў»)*

Сёння вясна для беларусаў – гэта і чарнобыльская бяда, якая прыйшла красавіцка-майскімі днямі 1986 года на нашу зямлю, смяротна атруціла яе, раскалола час і свет папалам: дачарнобыльскі і паслячарнобыльскі. Сярод вясновых пейзажаў, намаляваных беларускімі паэтамі, ужо нямала трагедыйна-змрочных, элегічных, прасякнутых матывамі трывогі, адчаю, безвыходнасці: «Над Прыпяццю – Нябачнай смерці след. Палескі край, Як пазмрачнеў твой свет» (П. Панчанка. «Аб самым смачным...»). Увесь драматызм вясновага свету на роднай зямлі хвалююча выяўлены ў вершах Анатоля Вялюгіна «Вясна трывогі нашай», Міколы Мятліцкага «Птушкі...», Таісы Мельчанкі «Прыпяцкая вясна» і інш.

Нашы сучасныя паэты не страцілі здольнасці «адчуваць сябе насеннем, што не ўзабаве прарасце» (Л. Дайнека). Уся беларуская паэзія жыве магутнай славянскай верай у сілу-моц сонечнага святла і цяпла. Р. Барадулін «наладжвае» сувязі паміж чалавекам і сонцам, чалавекам і даждом, узнаўляючы паэтычны свет «паганскае даўніны». У жывой, адухоўленай паяднанасці з роднай прыродай яму калісьці бачылася зарука будучыні: «Я запаведнік зрабіў бы, дзе б жылі вясновыя сны, Вадзянікі і чэрці, русалкі і лесуны» («У лес прыціхлы...»). На парозе 1990-х паэтаў аптымізм знік, і віною таму – экалагічная трагедыя свету: «Душа, як ні прагнецца ёй, Не можа вярнуцца ў паганства...» («Душа, як ні прагнецца ёй...»). Таму неяк больш абвострана ўспрымаюцца радкі ў вершы «Шапка», дзе герой паэта сустракае з'яўленне старажытнага Ярылы – бога Сонца. Ад сонечнага спрыняння залежыць лёс сяўбы, тое, як нальецца колас: «І прывітаў з пашанаю Ярылу Ды папрасіў, каб ярыне спрыяў». Сонцазварот для Р. Барадуліна неадлучны ад земляробчага календара, «кругаварот» зярняці.

Такім чынам, прасачыўшы эвалюцыю вобраза вясны, мы пераканаліся, што гэта – адзін з самых галоўных вобразаў-матываў у вобразнай сістэме беларускай паэзіі, які знайшоў сваё шматграннае эстэтычнае і натурфіласофскае адлюстраванне. Паэтычнае ўспрыманне вясны несла і нясе адбітак сацыяльна-гістарычнага зместу эпохі і разам з тым увасабляе яркія, сутнасныя рысы традыцыйна-паэтычнай свядомасці беларусаў. Вясна – гімн народнай душы, яе адраджэнскай моцы, песня кахання і радасці жыцця. Тэмы-матывы вясновага адраджэння прыроды, праратання і квітнення гучаць не толькі як лірыка «чыстай красы», яны асэнсоўваюцца паэтамі ў іх натурфіласофскай глыбіні, з прыкметных маральна-гуманістычных пазіцый. Вясновы росквіт прыроды – гэта неўвядальнасць свету, харакства, чалавечага жыцця. Вобраз вясны ў люстэрку сучаснай паэзіі набыў прыкметныя змены, звязаныя з новымі часавымі рэаліямі, і перадусім – з экалагічным разбурэннем нацыянальнага свету. Чарнобыльская вяс-на – глыбока трагедыйны лейтматыў сённяшняй паэзіі. Аднак, пакуль будзе існаваць жыццё, паэтычная душа беларуса, датуль будуць гучаць на нашай зямлі вясновыя песні.



***«...папрасіць Ярылу, каб ярыне спрыяў...»***

*Фота Міколы ПІВАВАРА*

*Алесь БЕЛЬСКІ*





## Наш каляндар

250 гадоў **Яну СНЯДЭЦКАМУ** (Польшча, 1756–1830) – таленавітаму матэматыку і астраному, педагогу, рэфарматару вышэйшай і сярэдняй адукацыі ў ВКЛ, філосафу, мовазнаўцу і гісторыку. Апроч энцыклапедычных ведаў, меў нязломную сілу волі, апекаваў не толькі польскіх, але і беларускіх, літоўскіх асветнікаў. Дырэктар Кракаўскай (1792–1803) і Віленскай (1806–1825) абсерваторый, з 1807 па 1815-ы рэктар Віленскага універсітэта.

Радыкальную рэформу сістэмы асветы на Беларусі выклаў у манаграфіі «Жыццё і літаратурная дзейнасць Гуга Калантая» (1814), у якой падкрэсліваў, што асвета павінна падрыхтоўваць грамадзян да дзяржаўнай службы і правільнага вядзення прыватных спраў, не ў выбраных, а ва ўсіх саслоўях «выяўляць дараванні і таленты, фармаваць іх і выхоўваць на карысць народную», а таксама клапаціўся пра павышэнне ўвагі дзяржавы да працы і становішча педагогаў. Услед за Ж. Русо ён паўтараў, што вучань «павінен працаваць, як селянін, а мысліць, як філосаф». На аснове ідэй Я. Снядэцкага ў Беларусі складаліся вучэбныя праграмы, уводзіліся новыя курсы, ствараліся падручнікі. Віленскі універсітэт пры ім дасягнуў еўрапейскага ўзроўню. На гэты конт нават у рускага паэта, на той час навучэнца Маскоўскага універсітэта, А. Паляжаева ў паэме «Сашка» ёсць такія характэрныя радкі: «О родины прямых студентов – Геттинген, Вильна и Оксфорд! У вас не может быть патентов Дурак алтынник или скот..; У вас студент есть муж почтенный, А не паршивый, не сопляк, Не полузнайка просвещенный И не с червонцами дурак!» Яшчэ адна немалаважная якасць Я. Снядэцкага: калі ранейшае кіраўніцтва універсітэта часта запрашала навуковых свяціл з-за мяжы, то ён намагаўся выхаваць значных вучоных з мясцовых ураджэнцаў. Не выпадкова, што ў 1830-я гады там з ліку 47 прафесараў 36 было мясцовых (падлік А. Кіркора).



**Дарога ўвысь, дарога да Храма**

*Крэўскі эцюд Ігара ПРАКОФ'ЕВА, г. Слонім*




*Саламон Рысінскі (? – 1625), класічны філолаг, лацінамоўны паэт, фальклярыст-парэміёлаг і пратэстанцкі дзеяч – першы вядомы навуцы чалавек, які сам сябе назваў беларусам, а сваю краіну Беларуссю.*

# Навуковыя крыніцы самаакрэслення Саламона Рысінскага як беларуса

Да яго назву «Белая Русь» і «белыя русіны» прымянялі выключна чужаземныя пісьменнікі, прытым у адносінах да самых розных частак Русі: ад Галіччыны праз Валынь, Пскоўшчыну, Полаччыну і Ноўгарад Вялікі па Маскоўшчыну. На пачатку XVI ст. польскія пісьменнікі пачалі стала адносіць назву «Белая Русь» і «белыя русіны» да жыхароў цэлай Літоўскай Русі (прытым Руссю не лічылася Маскоўшчына). На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў назвы гэтыя звужалі свой тэрытарыяльны абсяг. Калі для Яна Стабніцкага «Белай Руссю» была ўся Русь, апрача Галіцкай (Львоўскай) Русі і Падоліі (але з Вялікім Ноўгарадам), дык для Яна Мончынскага «Белай Руссю» не былі ўжо і валынцы. Для Марціна Кромера «Белай Руссю» перастала быць яшчэ і Падляшша (якое называў Палессем). Тое самае можна сказаць пра Мацея Стрыйкоўскага і яго alter ego Алесандра Гваньіні. Для двух апошніх «Белай Руссю» магла быць і Маскоўшчына, усё-такі «белымі русінамі» (Albi Rutheni), як у Гваньіні, ці «беларусакамі» (Biełorussacy, Russacy Biali), як у Стрыйкоўскага, называюцца выключна жыхары ўсходніх тэрыторыяў ВКЛ. Пры нагодзе адзначу, што найбольш папулярны ў XVII ст. тэрмін, які прымяняўся да праваслаўных жыхароў Рэчы Паспалітай, «беларусцы», гэта праўдападобна неалагізм, створаны дзеля перакладу тэрміна Стрыйкоўскага.

Саламон Рысінскі быў чалавекам высокаадукаваным. Пачатковую адукацыю атрымаў, відаць, на бацькаўшчыне, паколькі ведаў царкоўнаславянскую мову (у выдадзеным і выпраўленым ім польскім перакладзе «Псалмоў Давіда» першыя вершы перадаў на царкоўнаславянскай мове, пераклаў таксама на латынь з «мясцовай мовы» вершы Андрэя Рымшы). У 1582 г. студыяваў у Лейпцыгу. Пасля некалькі гадоў настаўнічаў, спярша ў Жамойці, пасля ў Малапольшчы. У 1586 г. паступіў у Альтдорфскі універсітэт пад Нюрнбергам. Запісаўся тут як Solomo Pantherus Leucorussus. Гэта і ёсць першая вядомая ў гісторыі дэкларацыя беларускасці. Два гады пазней, у пісьме да свайго нямецкага сябра Конрада Рытэрсгаўзена, назваў сваю бацькаўшчыну Leucorossia.

Гэта значыць, што Рысінскі самаакрэсліўся як беларус яшчэ да другога прыезду ў Нямеччыну. У гэты час ніхто на бацькаўшчыне Рысінскага такімі назвамі не карыстаўся. У паўсюдным абарачэнні былі назвы Літва і Русь, русіны і ліцвіны. Напрыклад, Францыск Скарына запісаўся ў Кракаўскі універсітэт як «літвін» (Lithuanus), а ў Падуанскі як «русін» (Ruthenus).

Такім чынам, тое, што Рысінскі сябе назваў беларусам, а сваю бацькаўшчыну Беларуссю, было абсалютнай навізной, свайго роду інтэлектуальным прарывам. Крыніцаў самаакрэслення Рысінскага як беларуса трэба шукаць у інтэлектуальнай сферы, у яго лекцыях.

Пра краіну «Белая Русь» і «белых русінаў» пісалі раней за палякаў і немцы. Вялікай папулярнасцю карысталася праца Ульрыха Рыхенталя «Канстанцкі сабор», якая, дарэчы, праўдападобна, была першакрыніцай, з якой пачэрпнулі тэрміны «Белая Русь» і «белыя русіны» польскія вучоныя. Рысінскі, хутчэй за ўсё, пазнаёміўся з гэтымі тэрмінамі з папулярных на яго бацькаўшчыне працаў Кромера, Мончынскага, Гваньіні і Стрыйкоўскага. Тым не менш тэрміны Рысінскага абсалютна яго ўласныя. Кромер і Гваньіні карысталіся лацінскімі тэрмінамі, а Мончынскі і Стрыйкоўскі польскімі. Пры тым яны пісалі пра Белую Русь, белых русінаў або беларусцаў. Рысінскі нацыянальнасць перадае тэрмінам грэцка-лацінскім, а назву краіны грэцкім. Назвы краіны і нацыі з'яўляюцца ў яго адразу у сённяшняй форме «Беларусь» і «беларусы».

Беларускі даследчык Алесь Белы адшукаў падобную да скарыстанай Рысінскім канструкцыю ў лекцыях па Вергілію Юлія Пампонія Лета, які наведаў паўднёвую частку ВКЛ у 1479–1480 гг. Лет выкладаў, што рака Паўднёвы Буг (Hypanis) «нараджаецца ў балоце беласкіфаў» (in paludes Leucoscytharum). У іншым месцы Лет сцвярджае, што ў Сарматыі гавораць на сямі розных мовах, з якіх самая распаўсюджаная скіфская, якую называюць таксама рускай. Такім чынам, Лет, праўдападобна, пераклаў на грэцкую мову лацінскі тэрмін Alba Russia. Гэта важны след, і вельмі праўдападобна, што грэцкае слова «леўкос» і канструкцыю тэрмінаў Рысінскі запазычыў менавіта ад Лета. Тым не менш, ні беларусы (Leucorussi), ні Беларусь (Leucirossia) у працы вучонага італьянца не выступаюць. Формы, скарыстаныя Рысінскім, належаць выключна яму і маглі ўзнікнуць самастойна. Веданне грэцкай мовы было доказам высокай адукаванасці; Рысінскі дадаткова мог яе скарыстаць дзеля падкрэслівання свайго «грэцкага» (у канфесійным разуменні – праваслаўнага) паходжання.

Апрача ўжо згаданых, ёсць у Рысінскага яшчэ адзін прыклад скарыстання назвы «беларусы». У рукапісных каментарах да прац Аўзонія, напісаных у форме пісем разам з Рытэрсгаўзенам, Рысінскі тлумачыць сааўтару ўжыванне прыналежных прыметнікаў: «Яшчэ і цяпер маскоўцы, беларусы і вялікая частка літоўцаў такім часта карыстаюцца». На акрэсленне маскоўцаў Рысінскі скарыстоўвае рэдка ўжываную літаратурную лацінскую назву Hamaxobi. Гэтаксама называе маскоўцаў згаданы вышэй лексікограф Мончынскі, першы польскі мовазнаўца, які ўжывае назву «белая русь» як этнічную.

Мончынскі, як і ўсе тагачасныя польскія вучоныя, трактуе «Белую Русь» шырока. Гэта ўсе жыхары Русі (без Масквы), апрача валынцаў. Паколькі Рысінскі перакладаў тэрмін без канчатку -ін, вельмі праўдападобна, што пераклаў менавіта тэрмін Мончынскага «biała ruś». Праўдападабенства, што менавіта слоўнік Мончынскага быў першакрыніцай зробленага Рысінскім перакладу, узмацняецца і тым, што Мончынскі быў пратэстантам-кальвіністам, у свой час блізка звязаным з дваром Радзівілаў.

Такім чынам, навуковай крыніцай самаакрэслення Рысінскага як беларуса быў, хутчэй за ўсё, «Лексікон» Яна Мончынскага, а грэцкая форма перакладу магла ўзнікнуць пад уплывам Юлія Пампонія Лета.

Застаецца яшчэ ўстанавіць, што канкрэтна значылі для Рысінскага тэрміны «беларус» і «Беларусь». Для ўсіх згаданых вышэй вучоных «Белая Русь» абазначала амаль усю сённяшнюю Беларусь і большую частку Украіны (без Галіччыны, Падоліі і Валыні). Тым не менш яны апісвалі становішча да Люблінскай уніі 1569 г., пасля якой назва «Белая Русь» хутка звужала свой тэрытарыяльны абсяг. Гэты самы Кромер, які ў тэксце сваёй працы, напісанай да уніі, Падняпроўскую Украіну называе «Белай Руссю», ва ўступе, напісаным пасля Люблінскай уніі, называе Кіеў сталіцай Падоліі. Таксама Стрыйкоўскі, які называе беларусцамі ўсіх жыхароў Беларусі і Падняпроўскай Украіны, сярод «беларускіх народаў» вылучае «літоўскіх беларусцаў». Тут відавочна маюцца на ўвазе сённяшнія беларусы.

Са згаданага раней выказвання Рысінскага вынікае ясна, што ён не лічыў сябе ні маскоўцам, ні літоўцам. Адносна апошніх Рысінскі ведае, што вялікая частка літоўцаў гаворыць паславянску, але не ўсе (з літоўскай мовай мусіў быць знаёмы, бо ў 1584 г. коратка настаўнічаў у Жамойці). Значыць, яны, відаць, для яго асобны народ. Дарэчы, сваю бацькаўшчыну ў прыдуманай самому сабе падчас смяротнай, як яму здавалася, хваробы, эпітафіі, назваў традыцыйна проста «Руссю».

Як беларус лічыў сябе прыналежным да шырэйшай супольнасці «сарматаў», паколькі аднойчы падпісаўся як Solomo Rysinius Sarmata. Сарматызм пазней выradзіўся ў вузкую ідэалогію шляхты Рэчы Паспалітай. Усё-такі ў часы Рысінскага і для яго асабіста «сармата» абазначала альбо грамадзяніна Рэчы Паспалітай і ў тым сэнсе «паляка», альбо, шырэй – славяніна. Тут відавочна, што «сармацкая» мова – гэта мова ўсіх славян.

Застаецца самая цяжкая да вырашэння праблема: ці далучаў Рысінскі да «беларусаў» таксама сённяшніх украінцаў. Непасрэднага адказу на гэтае пытанне няма. Можна толькі сказаць, што ў яго вершах праяўляецца літоўскі (На той час. – **Рэд.**) палітычны патрыятызм. У дзяржаўным сэнсе і Літва яму айчына. Паколькі гэта Літва ў межах пасля Люблінскай уніі, можна меркаваць, што Рысінскі быў, хутчэй за ўсё, беларусам у сэнсе, блізкім сённяшняму. Аб межах Беларусі Рысінскага можа сведчыць і тое, што ў кальвінскай Літоўскай ядноце (якой Рысінскі быў адным з самых паважаных дзеячаў) існаваў рускі (пазней перайменаваны на беларускі) дыстрыкт, які абымаў Полацкае, Віцебскае, Мсціслаўскае і Мінскае ваяводствы.

Такім чынам, Саламон Рысінскі лічыў сябе беларусам і славянінам, грамадзянінам Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

*Алег ЛАТЫШОНАК*






## Агульныя палажэнні

IV Рэспубліканскі фестываль фальклорнага мастацтва «Берагіня» (далей фестываль) праводзіцца з кастрычніка 2005 года па чэрвень 2006 года, заключныя мерапрыемствы адбудуцца 1–4 чэрвеня 2006 года ў гарадскім пасёлку Акцябрскі Гомельскай вобласці.

Фестываль праводзіцца ў адпаведнасці з планам мерапрыемстваў па рэалізацыі Канцэпцыі нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, зацверджанай распараджэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 218 рп ад 07.08.2002 г.

Заснавальнікамі фестывалю з'яўляюцца Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Гомельскі абласны выканаўчы камітэт, Акцябрскі раённы выканаўчы камітэт, грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры».

Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь аказвае арганізацыйную падтрымку па ўдзеле ў заключных мерапрыемствах фестывалю калектываў устаноў адукацыі сістэмы Міністэрства адукацыі.

## Мэты і задачы фестывалю:

– прыцягненне ўвагі грамадскасці да праблем выхавання падрастаючага пакалення сродкамі традыцыйнага народнага мастацтва;
– выяўленне і вяртанне ў практыку выхаваўча-адукацыйнай работы разнастайных праяў аўтэнтычнага фальклору;
– далучэнне школьнікаў, студэнцкай і працоўнай моладзі да аўтэнтычнага фальклору шляхам вуснага яго пераймання;
– стымуляванне і падтрымка дзіцячай і маладзёжнай фальклорнай творчасці.

## Заключныя мерапрыемствы фестывалю

У заключных мерапрыемствах фестывалю прымаюць удзел ад кожнай вобласці і горада Мінска:
– дзіцячыя фальклорныя гурты (па адным да 25 чалавек);
– маладзёжныя фальклорныя гурты (па адным да 25 чалавек, ва ўзросце ад 18 да 25 гадоў);
– майстры Дамоў рамёстваў і іх вучні (па 4 чалавекі);
– асобныя выканаўцы (салісты) – па 2 чалавекі з ліку ўдзельнікаў кожнага калектыву;
– Акцябрскі раён на заключны тур прадастаўляе па два калектывы ў кожнай узроставай групе, а таксама шэсць майстроў (тры з іх – вучні гэтых майстроў).

Удзел у заключных мерапрыемствах ажыццяўляецца на падставе рэкамендацый і заявак абласных і Мінскага гарадскога арганізацыйных камітэтаў фестывалю.

**Крытэрыі адбору ўдзельнікаў фестывалю**

Крытэрыямі адбору ўдзельнікаў фестывалю з'яўляюцца:
– ступень захаванасці ў творчых калектывах мясцовых традыцый (асабліва каранёвых формаў) у розных жанравых праявах;
– наяўнасць у дзіцячых і маладзёжных фальклорных калектывах сярод агульнага складу ўдзельнікаў не менш 45 % хлопчыкаў і юнакоў;
– наяўнасць акампанементу ў ансамблевым выкананні на беларускіх народных інструментах;
– наяўнасць у калектывах народных касцюмаў мясцовай традыцыі.

**Патрабаванні да мастацкіх праграм**

Фальклорныя калектывы прадастаўляюць праграмы, якія скіраваны на змястоўнае раскрыццё мастацкіх традыцый менавіта сваёй мясцовасці: адноўленыя і бытуючыя песні каляндарнага (вясны і лета) і сямейна-абрадавага (вяселля і хрэсьбін) цыклаў, пазаабрадавыя песні, карагоды, народныя танцы (сольныя, парныя, з няцотнай колькасцю выканаўцаў, парна-гуртавыя і іншыя), гульні, інструментальная музыка, творы празаічных жанраў і іншыя. У кожную праграму павінны быць уключаны не менш двух асобных выканаўцаў-салістаў па жанрах фальклорнага мастацтва (па выбары кіраўніка калектыву).

Выкананне твораў з іншых рэгіёнаў, перанятых па радыё, тэлебачанні, а таксама аўтарскіх твораў не дазваляецца.

Выступленне ўдзельнікаў фестывалю ажыццяўляецца пад акампанемент музычных інструментальных ансамбляў традыцыйнага складу ў жывым гучанні.

Перавага аддаецца калектыву, у склад акампануючых груп якога разам са сталымі музыкамі ўваходзяць дзеці і моладзь.

Касцюмы ўдзельнікаў фестывалю павінны ўяўляць сабой шматлікія варыянты арыгіналаў або копій традыцыйных народных касцюмаў сваёй мясцовасці.

Працягласць праграм павінна складаць:
– 15 хвілін – удзел у прэзентацыях-аглядах;
– 1–1,5 гадзіны – сольныя канцэрты.

Колькасць выступленняў з сольнымі праграмамі, удзел у сумесных імпрэзах, працягласць выступленняў каардынуюць арганізатары фестывалю.

Крытэрыямі ацэнкі мастацкіх праграм з'яўляюцца:
– жанравая разнастайнасць;
– захаванасць мясцовага мастацка-эстэтычнага стылю;
– адпаведнасць фальклорных твораў узросту выканаўцаў;
– здольнасці да імправізацыі;
– узровень выканальніцкага майстэрства.

## Умовы ўдзелу ў II рэспубліканскім турніры дзіцячых і маладзёжных фальклорных гуртоў

Турнір дзіцячых і маладзёжных фальклорных гуртоў праводзіцца па наступных праграмах і намінацыях:

**1. Харэаграфічнае мастацтва**
**Індывідуальная творчасць:**
**Намінацыя «Конкурс танцавальных пар».**

У конкурсе танцавальных пар – выканаўцаў народных побытавых танцаў – прымаюць удзел па тры пары ад дзіцячага (вучні 7–8 класаў) і маладзёжнага калектываў. Таксама прымаюць удзел дыпламанты III-га Гомельскага абласнога конкурсу выканаўцаў побытавага танца ў групе 7–8 класы (3 пары).

Танцавальныя пары прадастаўляюць мясцовыя варыянты праграмных танцаў з захаваннем адметнага стылю выканання:
– «Лявоніха»;
– « Полька імправізаваная»;
– «Мікіта» («Таўкачыкі», «Заёнец», «Зайчык-чыбірайчык», танцы такога тыпу з іншымі назвамі);
– полька «Бабачка»;
– «Кракавяк»;
– «Падыспань»;
– «Лысы» («Карапет»);
– «Какетка»;
– «Субота»;
– «Войра» («Ойра»);
– «Каханачка»
(«Ночка» («Цёмна ночка»), «Во саду ли» («Васадуля»), «Матлёт», «Месяц», «Вальс»).

Праграма конкурсу можа мяняцца:
– павелічэнне праграмы адбываецца за кошт дадатковага рэпертуару, пададзенага ў дужках;
– памяншэнне – на вырашэнне арганізатараў турніру.

Калектыўная творчасць:
– намінацыя «Карагод» – выконваецца адзін кругавы ці шарэнгавы, або тыпу «Лукі», і іншыя;
– намінацыя «Кадрыля» – выконваецца адзін танец (на 2, 4 і болей пар) ці танец тыпу кадрылі («Полька», «Вальс» і іншыя).

**Ацэнка індывідуальнай і калектыўнай творчасці**

Конкурс танцавальных пар ацэньваецца па адкрытай (а пры неабходнасці – па закрытай) сістэме.

Выкананне карагода, кадрылі ці танца тыпу кадрылі ацэньваецца па закрытай сістэме на падставе калектыўнага абмеркавання і прыняцця калегіяльнага рашэння.

Ацэнка індывідуальнага ці калектыўнага выканальніцтва ажыццяўляецца па наступных крытэрыях:
– адпаведнасць мясцоваму песенна-танцавальнаму стылю;
– дакладнае веданне кампазіцыі танца, карагода;
– непасрэднасць і выразнасць вобразна-пластычнага самавыяўлення;
– тэхніка выканання;
– музычнасць выканання;
– майстэрства спеваў падчас танца ці ваджэння карагода;
– веданне народнага танцавальнага этыкету;
– культура нашэння касцюма.

**2. Музычнае мастацтва**
**Намінацыя «Народныя спевы»**

У гэтай намінацыі кожны з фальклорных калектываў уключае ў праграму дзве гуртавыя песні мясцовай традыцыі – веснавую ці летнюю (з каляндарна-земляробчага цыкла), вясельную ці хрэсьбінную, пазаабрадавую.

**Намінацыя «Інструментальная музыка»**

Ад кожнага калектыву прымаюць удзел не менш чатырох чалавек – выканаўцаў на беларускіх народных музычных інструментах. У ансамблевым складзе яны выконваюць перанятыя ад мясцовых народных музыкаў традыцыйныя найгрышы (танцавальныя, песенныя; абрадавыя).

Выступленне музыкаў не павінна перавышаць шасці хвілін.

**Ацэнка выканання народных песень і інструментальнай музыкі**

Крытэрыямі ацэнкі выканання народных песень і музычных інструментальных твораў з'яўляюцца:
– жанравая разнастайнасць;
– наяўнасць у рэпертуары песенных і інструментальных узораў каранёвай мясцовай традыцыі;
– адпаведнасць мастацка-эстэтычнага ўзроўню песень узросту выканаўцаў;
– узровень выканальніцкага майстэрства (чысціня строя, манера гукавымання; тэхніка ігры на музычных інструментах);
– эмацыянальнасць і непасрэднасць выканання;
– наяўнасць у гурце розных музычных інструментаў;
– здольнасць да імправізацыі.

**3. Дэкаратыўна-побытавае мастацтва**

Праграма складаецца з дзвюх частак:
– выстаўка-конкурс вырабаў дэкаратыўна-побытавага мастацтва (хатняе заданне);
– адкрыты конкурс на лепшы выраб дэкаратыўна-побытавага мастацтва.

На выстаўку-конкурс прадастаўляюцца вырабы з прыродных матэрыялаў (салома, лаза, карані, чарот, бяроста, лыка і іншыя), вышыўка, карункапляценне, ткацтва, ганчарства і іншыя. Асаблівая ўвага звяртаецца на калекцыі паясоў, выцінанак, вышываных вырабаў, вырабаў з саломы.

Прадастаўленыя экспанаты павінны быць створаны непасрэднымі ўдзельнікамі турніру.

Неабходнае выставачнае абсталяванне калектывы прывозяць самі.

Вырабы, прадастаўленыя ў экспазіцыі выстаўкі-конкурсу, павінны мець пашпарты (прозвішча, імя, год нараджэння, месца жыхарства аўтара; назва ўстановы, у якой вучыцца канкурсант; назва твора, прадастаўленага на конкурс; прозвішча, імя, імя па бацьку настаўніка (майстра), які падрыхтаваў да конкурсу).

Выстаўкі прэзентуюцца пераважна аўтарамі твораў у мастацкай форме з дапамогай калектываў; працягласць прадстаўлення да сямі хвілін.

Адкрыты конкурс праводзіцца па чатырох намінацыях (дзве гадзіны кожная):
– выраб з саломы: прапаноўваецца адно з дзвюх заданняў (або аб'ёмнае пляценне (званочкі з 5, 6 ці 7 саламінак або фігурка птушкі, козліка, коніка, лялькі), або аплікацыя саломкай па дрэве ці тканіне);
– традыцыйная вышыўка: удзельнікі конкурсу аздабляюць традыцыйным арнаментам або сурвэтку, або дарожку, або канец ручніка ў традыцыйнай тэхніцы;
– выраб пояса: робіцца ў адной з ткацкіх тэхнік (на ніту, на бердзечку і іншыя);
– выразанне выцінанкі: выконваецца адно з трох заданняў: або фіранка, або пано ці віншавальная паштоўка.

Удзельнікам адкрытага конкурсу неабходна загадзя прадумаць змест будучага вырабу, падрыхтаваць неабходны для гэтага матэрыял, мець з сабой інструменты, неабходныя для выканання конкурсных заданняў. Лепшыя вырабы, створаныя ў час адкрытага конкурсу, перадаюцца ў фонд Цэнтра гісторыі і культуры гарадскога пасёлка Акцябрскі.

Выстаўка-конкурс (хатняе заданне) і творы, выробленыя ў час адкрытых конкурсаў, ацэньваюцца па наступных крытэрыях:
– адпаведнасць традыцыі;
– тэматыка вырабаў;
– тэхнічны ўзровень выканання;
– мастацкі ўзровень вырабаў;
– разнастайнасць экспазіцый калекцый;
– узровень мастацкага афармлення экспазіцый;
– мастацкі ўзровень прэзентацыі выставы;
– хуткасць выкання вырабу.

**4. Канцэртная праграма**

Канцэртная праграма (працягласцю 15 хвілін) складаецца з абрадавых і пазаабрадавых твораў, якія не былі прадастаўлены ў папярэдніх праграмах і намінацыях.

Крытэрыі ацэнкі канцэртных праграм адпаведныя «Патрабаванням да мастацкіх праграм».

## Умовы ўдзелу ў I Рэспубліканскім турніры салістаў – выканаўцаў твораў народнай спадчыны

У турніры прымаюць удзел па два прадстаўнікі ад кожнага фальклорнага калектыву – удзельніка фестывалю. Выканаўцы дэманструюць сваё майстэрства ў наступных намінацыях:
– песня абрадавая (вясна-лета, вяселле-хрэсьбіны);
– песня пазаабрадавая (без суправаджэння ці з музычным інструментальным суправаджэннем);
– найгрыш (з прыпеўкамі і скокамі);
– народная проза (казка, легенда, паданне, вусны бытавы аповед);
– выраб дэкаратыўна-побытавага мастацтва (вышываны твор ці выраб з лазы).

У турніры салістаў могуць прымаць удзел і прадстаўнікі калектываў – гасцей фестывалю.

Крытэрыі ацэнкі ўдзельнікаў I Рэспубліканскага турніру салістаў – выканаўцаў твораў народнай спадчыны адпаведныя Умовам папярэдніх намінацый. Крытэрыі ацэнкі ў намінацыі «Народная проза» – дасканалае веданне сюжэту, адпаведнасць мясцовай традыцыі, мастацкая якасць аповеда. Крытэрыі ацэнкі ў намінацыі «Выраб з лазы» – хуткасць і якасць вырабу, беражлівыя адносіны да традыцыі, мастацкі ўзровень, дасканаласць тэхнікі.

## Умовы ўдзелу ў шэсці-відовішчы

Калектывы – удзельнікі фестывалю павінны мець эмблему (выяўленча-мастацкі сімвал). У час шэсця прэзентуюць «візітку» (да адной хвіліны). Калектыў, які найбольш адметна праявіў сябе, заахвочваецца дыпломам і каштоўным падарункам.

## Заахвочванне ўдзельнікаў фестывалю

Формы заахвочвання ўдзельнікаў кожнага этапа фестывалю вызначаюць адпаведныя арганізацыйныя камітэты.

Удзельнікі і пераможцы заключнага тура ўзнагароджваюцца адпаведнымі дыпломамі, сувенірамі, спецыяльнымі прызамі Рэспубліканскага арганізацыйнага камітэта фестывалю.

Па выніках конкурсных праграм і намінацый калектывам і салістам – пераможцам надаюцца званні:
– «Лаўрэата» з уручэннем спецыяльных прызоў і дыпломаў (за 1-я месцы);
– «Дыпламанта» з уручэннем спецыяльных прызоў і дыпломаў (за 2-я і 3-я месцы).

Фальклорным калектывам (дзіцячаму і маладзёжнаму) і салістам, якія атрымалі найбольшую колькасць першых месцаў у конкурсных праграмах і намінацыях фестывалю, прысуджаецца «Гран-пры» з уручэннем спецыяльных прызоў і дыпломаў.





**Наш каляндар**



У вёсцы Такары Камянецкага раёна 125 гадоў таму 19 красавіка нарадзіўся **Усевалад Ігнатоўскі**. Творчы і жыццёвы шлях вядомага гісторыка, грамадскага і палітычнага дзеяча, акадэміка АН Беларусі (1928) быў надзвычай насычаны. У 1911 годзе Усевалад Макаравіч скончыў Тартускі універсітэт. Працаваў выкладчыкам, старшынёй педсавета Мінскага настаўніцкага інстытута (1914–1921). Стварыў у 1915 годзе культурна-асветніцкую арганізацыю «Наш край» (пазней «Маладая Беларусь»). З чэрвеня 1917 года член ЦК БСГ, з 1918 – член ЦК Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. У студзені 1920 года, у час польскай акупацыі, стварыў на базе «Маладой Беларусі» Беларускую камуністычную арганізацыю (БКА). Удзельнічаў у падпісанні «Дэкларацыі аб абвяшчэнні Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь». Займаў пасады народнага камісара земляробства і асветы БССР. У 1926–1928 старшыня, прэзідэнт (з 1927) Інстытута беларускай культуры. Са снежня 1928-га прэзідэнт АН Беларусі. Адыграў значную ролю ў правядзенні палітыкі беларусізацыі, у вырашэнні праблемы ўзбуйнення БССР.

На самым пачатку 1930-х гадоў вызвалены ад пасады прэзідэнта АН Беларусі, выключаны з ВКП(б) як «лідэр нацыянал-дэмакратычнай контррэвалюцыі» і «кулацкі агент»... Скончыў у 1931 г. жыццё самагубствам.

**Імпрэза**

# Замаляваныя сведкі мінуўшчыны

6 красавіка ў выставачнай зале бібліятэкі Полацкага дзяржаўнага універсітэта, што ў Наваполацку, адкрылася выстава «У пошуках Атлантыды». Імпрэза завяршае вандроўку, пачатую мінулым летам у Лявонпалі Мёрскага раёна. Галоўнае пытанне, якім цікавіліся і стваральнікі экспазіцыі, і наведвальнікі – ці знайшлі мастакі Юлія Шайкова, Людміла Кацэра, Алесь Пушкін, Андрэй Міхайлаў ды іншыя таямнічую Атлантыду і што ўвогуле разумеюць пад тым паняццем? Дык вось, гэта ўвасабленне таго, што нельга памацаць, але існуе ў нашай памяці, нашых сэрцах. І нездарма месцам правядзення пленэру стала мястэчка Лявонпаль, прасякнутае духам мінуўшчыны, што нібыта знаходзіцца па-за часам, яно захавала ў сабе шмат таямніцаў. Палац графаў Лапацінскіх, царква, рэшткі старадаўняга парка – маляўнічыя сведкі мінуўшчыны, стра-



ціўшы якія, мы згубім частку гісторыі і магчымасць спазнання сябе. Пошукі пачаліся з інтэр'ера дамка, дзе колькі дзён жылі мастакі, музея «Хата бабкі Ядзвінні», з краявідаў вакол яго, са стасункаў з суседзямі-местачкоўцамі. І трэба было вылучыць якраз тое, што кранае душу, што ад гэтае хвіліны будзе з табою назаўжды.

Вынік таго пленэру – вялікая колькасць малюнкаў, эцюдаў, накідаў, якія сталі асновай карцінаў ды графічных лістоў. У некалькіх гарадах краіны прайшлі выставы, пра што «Краязнаўчая газета» паведамляла на сваіх старонках.




*Фрагмент выставы ў віцебскай ратушы і партрэт С. Панізьніка (мастак К. Мяснікова)*

***Кацярына МЯСНІКОВА,*** *мастачка, адна з шукальніцаў нястрачанага*

***У сакавіку гэтага года споўнілася 155 гадоў з дня нараджэння Аляксея Сапунова (1851–1924), краязнаўца, гісторыка, руплівага даследчыка віцебскай даўніны. У 1923–1924 гадах знакаміты прафесар выступіў з лекцыямі па курсе «Беларусазнаўства» перад студэнтамі Віцебскага педагагічнага інстытута. Прапаную для чытачоў урыўкі з яго першай лекцыі (рукапіс захоўваецца ў фондах Віцебскага абласнога краязнаўчага музея).***

# Лекцыі пра беларусаў

«Быў час, калі ва ўсіх падручніках, ды і ў навуковых працах, пра беларуса гаварылася не інакш, як аб «хілай, слабой, забітай і цёмнай істоце». Ды што хадзіць далёка. Нядаўна, гадоў пяць таму, у мясцовай (віцебскай) прэсе з'явіўся артыкул, у якім мы чытаем: «Духоўнае аблічча заходняга краю мае свае спецыфічныя асаблівасці – набытак сваёй, некалі адметнай гісторыі. Глуш, балотная атмасфера, рабская псіхалогія не па ўзроўні іншых рускіх куткоў. У народнай масе ні ўяўлення пра мінулае, ні якога б там ні было нацыянальнага аблічча». Вось як проста вырашаюцца пытанні, якія патрабуюць і большай увагі, і большага разумення!»

Наш зямляк рэкамендуе бліжэй пазнаёміцца, больш уважліва прыглядзецца да мясцовага жыхара: «Але людзі з мастацкім пачуццём і разуменнем зусім інакш пачалі глядзець на беларуса. Ці бачылі вы карціну «Беларус» мастака І.Я. Рэпіна, які пражыў некалькі гадоў у сваім маёнтку, вёрстах у 20 ад Віцебска, добра зведаў беларуса, паставіўся да яго з любоўю. І яго «Беларус» – гэта не той хілы, з запалымі грудзьмі беларус, якога мы бачым на яго ж карціне «Бурлакі», калі Ільля Яфімавіч ведаў беларуса толькі, гэтак кажучы, паводле чутак. Тут мы бачым яго поўным жыцця, палаючым здароўем і ўдаласцю, з поглядам адкрытым і смелым, але ласкавым».

Далей Аляксей Парфёнавіч узгадвае характарыстыку беларусаў, складзеную прафесарам М.В. Доўнарам-Запольскім: «Па знешнасці беларуса зусім не цяжка адрозніць ад... велікароса і малароса. Перш за ўсё ён сярэдняга росту, хутчэй каржакаваты, хоць сустракаюцца і вельмі высокія... Беларус вызначаецца светлым колерам скуры, а жанчыны вельмі часта маюць тонкія рысы твару. Светлыя або светла-русыя валасы з'яўляюцца пераважнымі сярод беларускага насельніцтва. Гэтак жа, як шэры або блакітны колер вачэй... Агульнае ўражанне пры сустрэчы з тыповым беларусам вельмі для яго спрыяльнае: у ім прыкметная мяккасць у рысах твару, якую ўдала дапаўняе лагодны пагляд шэрых або блакітных вачэй... Наогул беларус уяўляе сабой ледзьве не самы чысты тып славянскага племені».

Маскоўскі пісьменнік Грузінскі, які сустракаўся і добра ведаў мясцовае насельніцтва, пісаў: «Уяўленні, якія існуюць аб тыпе беларускага селяніна, малююць яго нязграбным..., лядашчым, падаўленым цяжкім жыццём у балоцістым, бедным краі. Мае асабістыя ўражанні былі не такімі. Я бачыў беларуса моцнага целасклада, хаця і хударлявага... Але галоўнае – ні следу прыгнечанасці, забітасці. Манера трымаць сябе і размаўляць адрознівалася ад велікарускіх памернасцю, стрыманасцю, але ў ёй бачылася хутчэй паважнасць, удумлівасць, не пазбаўленая пачуцця ўласнай годнасці... Выразныя фізіяноміі сустракаюцца вельмі часта, а сярод жанчын, дзяўчат шмат проста прыгожых твараў...»

Пра сучасных жыхароў А. Сапуноў напамінае казанне вядомага педагога Лесгафта: «Беларус захаваў у значна большай ступені чысціню славянскага тыпу, чым яго ўсходні сабрат, велікарус, і паўднёвы, маларус... Рысы твару яго мяккія і часта, асабліва ў маладых, тонкія. Знешнасці беларуса адпавядае і яго характар: мяккі, падатлівы, лагодны. Вельмі распаўсюджана меркаванне, што ў характары беларуса назіраецца некаторая прыніжанасць, баязлівасць, забітасць, – у адпаведнасці з апошнімі даследаваннямі яго побыту яно павінна лічыцца недакладным. Беларус далёка не пазбаўлены ўсведамлення ўласнай годнасці, але ў ім зусім няма ганарыстасці. У адносінах з іншымі яскрава праяўляецца яго пакорлівая, наіўна-прастадушная натура. Беларус адрозніваецца незвычайнай вытрымкай у працы і г.д.».



Аляксей Сапуноў у сваёй лекцыі адзначае: «Падкрэслю яшчэ адну з характэрных прыкмет беларуса – гэта яго сціпласць, сціпласць да сарамлівасці, у яго няма самахвальства, як, напрыклад, у польскага шляхціца...

Беларус ахвотна аддаецца весялосці, валодае вельмі багатым і разнастайным падборам танцавальных прыпевак. Песні, танцы, гульні суправаджаюцца дастаткова шчодрым ужываннем віна. Любоў да віна, танец і весялосць з вялікім гумарам апісваюцца ў песнях. Разам са спевамі беларус вельмі любіць музыку. Музыка (скрыпач) з'яўляецца жаданым госцем на вяселлях і гулянках. Песні абрадавыя, лірычныя, танцавальныя, зрэшты, духоўныя вершы пры ўсіх іх мностве і разнастайнасці далёка не вычэрпваюць запасу беларускай народнай творчасці. Да гэтага трэба дадаць багаты матэрыял народных казак, прыказак, загадак і замоў».

Віцебскі краязнавец прыводзіць поўныя радкі паэзіі словы аб беларускім краі нашага земляка А.Ф. Пагоскага: «Такой прыгажосцю надзяліў Гасподзь старонку нашу, што куды ні глянь – аж душы светла: лясы цяністыя, воды светлыя, пагоркі быццам золатам абсыпаны; лугі, як паркаль дарагі, разнастайнымі кветкамі стракацяць. І амаль што з кожнага вясёлага пералеска віднеецца, быццам кавалак люстэрка, край сіняга гладкага возера. А паветра чыстае, мяккае, нябёсы бязвоблачныя, а з кожным ветрыкам нясецца да цябе які-небудзь прыкметны пах: то смолка чутна з хвоі густога, то дзятліна салодкая ад зялёных лугоў, то ядлоўцам ды чаромхай дыхне! І вельмі простыя і душэўныя нашы людзі; у кожнага твар вясёлы, сэрца добрае, ды няшмат жа яму і трэба – крышку адыдзе гора, крышку прамільгне радасць – усё забыў!»

***Прафесара А.П. Сапунова ў той час трывожыла пытанне: якая будучыня чакае беларусаў? Сваімі думкамі ён дзяліўся са студэнтамі педагагічнага інстытута: «Гэта ўжо ў значнай ступені ў нашых руках і залежыць ад нашых сумленных адносін да нашага абавязку перад дарагой Радзімай. Калі мы зможам выканаць наш абавязак добрасумленна, то будучыня наша светлая і радасная...»***

***Ільля ЯНУШ,*** *краязнавец, г. Лепель*

***Амаль шэсцьсот гадоў жывуць у Слуцку вернікі, што спавядаюць хрысціянства па лацінскім абрадзе. Цэнтрам сённяшняга каталіцкага жыцця з'яўляецца пабудаваны ў 2000 г. касцёл Святога Антонія. А першым каталіцкім храмам у гісторыі Слуцка стаў фарны касцёл, які з'явіўся ў 1419 г.***

Да 890-годдзя Слуцка

# Слуцкія каталікі

## Фарны касцёл

У XV ст. каталіцызм быў пашыраны пераважна на захадзе Вялікага княства Літоўскага. Слуцкі касцёл стаўся адным з першых, узведзеных у цэнтральнай частцы краіны. На пачатку XV ст. католікаў у Слуцку было, мабыць, мала. Верагодней за ўсё, што гэта стала прычынай, чаму касцёл асвяцілі не адразу, а праз дваццаць гадоў пасля пабудовы, у 1439 г. Абрад правёў віленскі канонік Мацвей. Тады ж быў выдадзены і прывілей на ўтрыманне ў Слуцку першага пробашча, якім стаў вышэйназваны Мацвей, а ў храме пачаліся рэгулярныя набажэнствы. Новастворaная парафія ўвайшла ў склад Віленскага біскупства.

Касцёл стаяў у Старым горадзе на левым баку вуліцы Востраўскай, што вяла ад гандлёвай плошчы да прадмесця Востраў. Прастаяў на гэтым месцы храм да XIX ст. У 1819 г. прыхаджане ўрачыста адзначылі 400-годдзе сваёй святыні. Узведзены з дрэва (лістоўніцы), храм не раз цярпеў ад варожых нападаў, пажараў, старэў, таму неадноймы рамантаваўся. Апошні рамонт адбыўся ў 1838 г. Тагачасны дэкан слуцкі ксёндз Дамброўскі пісаў: «Шкада, што гэта святыня не прастаіць яшчэ доўга, бо ад часу моцна састарэла». З выгляду касцёл уяўляў выцягнуты ў даўжыню аб'ём з алтарнай апсідай і сіметрычна прыбудаванымі па баках сакрысціямі. На галоўным фасадзе ўзвышаліся дзве невялікія вежачкі, шчыт паміж якімі ўпрыгожвала жывапісная выява Георгія-Пераможцы. Непадалёку стаяла драўляная вежа-званіца з двума званамі. Акрамя галоўнага алтара з драўлянай фігурай Хрыста, у храме меліся яшчэ тры – з правага боку – Святога Мікалая, злева – Святой Ганны і Святой Марыі Магдаліны.

## Падзеі сівой даўніны

У XVI ст. пачала пашырацца Рэфармацыя, ідэі якой неўзабаве былі прынесены і ў Слуцк. Асабліва ўзмацніліся ў горадзе пазіцыі пратэстантаў у XVII ст., калі гаспадарамі Случчыны сталі кальвіністы Радзівілы. З мясцовых жыхароў схільнасць да Рэфармацыі праяўлялі пераважна католікі. У выніку іх абшчына зменшылася настолькі, што фарны касцёл фактычна апусцеў, а ў нейкі час нават быў ператтораны ў кальвініцкі збор.

На ўмацаванне пахіснутых пазіцый Каталіцкай царквы скіравалі сваю дзейнасць каталіцкія манахі. У Слуцку ў 2-й пал. XVII ст. у Старым горадзе на вуліцы Прозараўскай з'явіўся касцёл аўгусцінцаў, пры якім была адкрыта школа. Прыкладна ў тыя ж часы прыбылі манахі-бернардзінцы, якія ў Старым горадзе на Падзамчышчы заснавалі свой кляштар з касцёлам Святога Антонія. Актыўнасць разгарнулі і езуіты. Напрыканцы XVII ст. у Старым горадзе непадалёку ад Востраўскай брамы яны заснавалі кляштар з касцёлам Святога Духа. А напачатку XVIII ст. з'явіўся яшчэ адзін езуіцкі кляштар у Новым горадзе з Троіцкім касцёлам. Пры Троіцкім езуіцкім кляштары дзейнічала вучылішча-калегіум, была арганізавана бібліятэка, студэнцкі тэатр, жыхарам прапаноўваліся паслугі аптэкі. У слуцкім езуіцкім калегіуме ў свой час вучыліся або выкладалі многія знакамітыя каталіцкія дзеячы, у тым ліку публіцыст і педагог Анастаз Людвік Керсніцкі, доктар філасофіі Антоні Барташэвіч, паэт і педагог Міхал Карыцкі, генерал ордэна езуітаў Тадэвуш Бжазоўскі.

Паволі з канца XVII ст. пачаўся працэс павелічэння колькасці католікаў. Утвараліся каталіцкія брацтвы Святой Ганны і Святой Марыі Магдаліны, на вуліцы Замкавай у Старым горадзе адкрыўся каталіцкі шпіталь з капліцай. Паўстала нарэшце пытанне вяртання фарнага касцёла, якое выклікала дыскусію з пратэстантамі і спрэчкі юрыдычнага характару. Вырашылася яно на карысць законных спадчыннікаў. Як памяць пра тыя падзеі, у мясцовых католікаў доўгі час папулярнай заставалася прымаўка «Starsza Słucka fara, niż kalwinska wiara» («Слуцкая фара старэй за кальвініцкую веру»). Для каталіцкіх вернікаў спрыяльным стала і змена гаспадароў краю – замест кальвіністаў Радзівілаў і іх нашчадкаў прыйшлі Радзівілы-католікі, першым з якіх у 1744 г. стаў Геранім Фларыян, брат нясвіжскага князя Міхаіла Казіміра. Напрыканцы XVIII ст. католікі складалі 17,4 % жыхароў горада. Але ўжо праз стагоддзе ўдзельная вага іх знізілася да 6,7 %.

Звесткі пра манахаў-аўгусцінцаў у Слуцку губляюцца ў 1-й пал. XVIII ст. Ордэн езуітаў быў скасаваны напрыканцы XVIII ст., яшчэ за часамі Рэчы Паспалітай. Іх драўляныя кляштарaў, якія з тых часоў выкарыстоўваліся па-рознаму, не стала – у Новым горадзе ў 1804 г., у Старым горадзе ў 1840-м. Пасля вызвольнага паўстання 1830–1831 гг. расійскімі ўладамі ў 1832 г. быў закрыты і бернардзінскі кляштар. Яго памяшканні прыстасавалі пад вайсковыя казармы, а касцёл пераасвяцілі пад палкавую царкву. Пасля таго, як царская войска пакінула горад, храм застаўся пусты.

Прыходскі (фарны) касцёл дзейнічаў да 1852 г., калі яго закрылі з-за старасці, а потым разабралі. На памяць пра сваю старадаўнюю святыню парафіяне бралі кавалачкі дрэва, а з трывалых матэрыялаў, што засталіся ад будынка, на яго месцы была ўзведзена мемарыяльная капліца, якой таксама далі назву Фарнай. Вуліца (былое Падзамчышча), на якую галоўным фасадам выходзіў касцёл, да 1920-х гг. таксама называлася Фарскай (цяпер вуліца Піянерская).

Пасля закрыцця фарнага касцёла каталіцкім вернікам быў перададзены запусцелы мураваны будынак касцёла былога бернардзінскага кляштара, што стаяў непадалёку. Пры ім размясцілася парафія дэкана слуцкага.



Троіцкі касцёл езуітаў у Слуцку (малюнак паводле польскага даследчыка Е. Пашэнды)

## XX стагоддзе

Пасля рэвалюцыі рэпрэсіі абрынуліся на прадстаўнікоў усіх веравызнанняў. Па сфабрыкаванай справе ў 1933 г. быў арыштаваны слуцкі ксёндз, якога разам з шэрагам каталіцкіх святароў іншых беларускіх гарадоў абвінавацілі ў стварэнні контррэвалюцыйнай арганізацыі і сувязях з польскай разведкай. Касцёл быў закрыты. У карыстанні вернікаў заставалася Фарная капліца, але напрыканцы 1930-х гг. не стала і яе.

Падчас Вялікай Айчыннай вайны мураваны Антоніеўскі касцёл атрымаў пашкоджанні. Пасля вайны яго рамонтам ніхто не займаўся, і на пачатку 1950-х гг. гарадскія ўлады прынялі рашэнне касцёл зруйнаваць.

Адзіным культавым каталіцкім збудаваннем у 2-й пал. XX ст. у горадзе заставалася невялікая мураваная каплічка на вуліцы Чатырнаццаці партызан (былой Кладбішчанскай), якая вядзе на могілкі. Старыя слуцкія могілкі здаўна маюць тры часткі – праваслаўную, каталіцкую і пратэстанцкую, на кожнай некалі былі свае культавыя збудаванні. Але з часам іх не стала. Таму гэта каплічка заставалася аб'ектам увагі практычна ўсіх наведвальнікаў могілак незалежна ад веравызнання. Нездарма пра яе як пра сваю цяпер успамінаюць і католікі, і праваслаўныя. Яна з'явілася ў сярэдзіне XIX ст. Мела гатычныя рысы – уваходны і два бакавыя аконныя праёмы былі зроблены ў форме стрэльчатых арак, завяршалася невысокім купалам. Унутры тарцовую сценку афармляла крыжападобная ніша з выявай укрыжаванага Хрыста. Рука пільнага вартаўніка матэрыялістычнага светапогляду, аднак, дабралася і да яе – у 1983 г. па загадзе мясцовага чыноўніка яе разбурылі за адну ноч.



Касцёл Святой Барбары ў вёсцы Замосце

*Ажыўленне царкоўнага жыцця прыйшлося на часы перамен. У 1992 г. была афіцыйна зарэгістравана слуцкая каталіцкая абшчына. На ўсходняй ускраіне, пры ўездзе ў горад ад Мінска, пачалося будаўніцтва Слуцкага комплексу Рымска-каталіцкай парафіі імя Святога Антонія. Архітэктурны комплекс быў завершаны ў 2000 г. Ён складаецца з чатырох будынкаў – двух кляштарных карпусоў з размешчаным паміж імі будынкам касцёла і магутнай чацвярыковай вежай-званіцай з правага боку ад увахода ў храм. 11 кастрычніка 2000 г. адбылося асвячэнне касцёла і пачаліся рэгулярныя богаслужэнні. Настаяцелем храма з часу заснавання парафіі з'яўляецца айцец Алексій (Рамановіч). Уваходзіць Слуцкая парафія ў склад Нясвіжскага дэканату Мінска-Магілёўскай архіепіскапіі. Колькасць слуцкіх парафіян дасягае двух з паловай соцень. Пры храме дзейнічае дзіцячая нядзельная школа, арганізаваны хор. Акрамя гарадскога, у Слуцкім раёне існуюць каталіцкія прыходы ў вёсках Замосце, Вынішча, Ленькі.*

*Ігар ЦІТКОЎСКІ,*
*г. Слуцк*

Ад рэдакцыі. *Першая публікацыя пра канфесіі на Случчыне змешчана ў №13 (аб праваслаўных).*





## Сусветны дзядзінец

**1104 г.** Ускняжанне ў Менску Глеба Усяславіча – першага вядомага менскага князя.

**1555 г.** Французскі астролаг М. Настрадамус публікуе сваю кнігу прадбачанняў. Спрэчкі наконт яе (геніяльна ці шарлатанства?) не спыняюцца і сёння.

**1682 г.** Царом Расійскай дзяржавы аб'яўлены Пётр I.

**1730 г.** Польскі кароль Аўгуст II наладжвае самы вялікі ў гісторыі баль на 30 тысяч чалавек. Цяга кіруючых колаў Рэчы Паспалітай да забаў і гуляў будзе дорага каштаваць не толькі ім асабіста.

**1842 г.** У ЗША ўпершыню прымаецца закон, што рэгламентуе дзіцячую працу.

**1861 г.** Расійскі імператар Аляксандр II гусіным пяром падпісвае ўказ пра адмену прыгоннага права. Тое пяро захоўвалася да рэвалюцыі 1917 года як гістарычная рэліквія.

**1890 г.** У Лондане адкрываецца першая ў свеце электрыфікаваная лінія метро.

**2001 г.** Колькасць насельнікаў Індыі дасягнула 1 мільярда чалавек.

## Сем цудаў Беларусі

***Алесь НАВАРЫЧ:***

1) 40 дрыгавіцкіх могільнікаў вакол в. Відзібор Столінскага раёна;
2) Графская пушча Налібакаў;
3) тарфяное радовішча в. Калоднае Столінскага раёна, унікальнае журавіннае балота;
4) заказнік «Вусце р. Лані»;
5) маларыцкія дубровы;
6) лес Чэрняхава Столінскага раёна (унікальная дуброва);
7) Волхаўскія (Болхаўскія) балоты Столінскага раёна.

***Васіль ЖУКОВІЧ:***

1) творчы подзвіг і унікальнасць Максіма Багдановіча (адараваны змалку ад Беларусі паэт стаўся глыбока нацыянальным творцам, самым юным паэтычным геніем свету);
2) Крыж Еўфрасінні Полацкай;
3) замкавы комплекс «Мір»;
4) гісторыка-культурны Радзівілаўскі запаведнік у Нясвіжы;
5) перамога пад Воршай 8 верасня 1514 года над амаль утрая большым войскам Маскоўскага княства;
6) нацыянальны парк «Белавежская пушча»;
7) возера Нарач – беларускае мора.

***Валеры ПАЗНЯКЕВІЧ:***

1) Нясвіжскі замак Радзівілаў;
2) Полацкі Сафійскі сабор;
3) Мірскі замак;
4) Відзіуш-гара ў в. Кажан-Гарадок Лунінецкага раёна;
5) Гальшанскі замак;
6) Сінкевіцкая царква ў Лунінецкім раёне;
7) Прыпяцкі нацыянальны заказнік «Вусце ракі Лані» (найбуйнейшае ў Еўропе пасяленне шэрых і белых чапляў).



**Паводка – закінуў на вуліцу вуду ды рыбку лаві**

*Фота Алега РУБАНІКА, г. Мёры*

## Зачаравалі краявіды Беларусі

*Ён нарадзіўся ў вёсцы Падбрэззе Лакнянскага раёна Пскоўскай вобласці. Цяпер Юрась Дашкевіч жыве ў Мінску і кожны ранак ездзіць у Смілавіцкі дзяржаўны аграрны каледж. Яго любоў – пчалярства. І заўжды з вялікім захапленнем расказвае пра гэтую працу, а таксама – як палюбіў беларускую прыроду, нашыя лясы, азёры, рэкі. Кожную нядзелю і ўлетку, і ўзімку едзе на прыроду – падзякаваць Беларусі, якая стала роднаю.*

*Яшчэ ён калекцыянуе манеты, гадзіннікі, этыкеткі. А найбольш любіць вёску. І прафесія яго ная – пчаляр – адзіная на ўсё жыццё. Дзякуючы добрым выкладчыкам каледжа, ягоныя веды і праца набываюць прафесійнасць.*

*Калі размаўляеш з ім, можна заслухацца і дзівіцца, як вясковы рускі юнак Юрась Дашкевіч так моцна палюбіў край беларускі, мову нашую і нялёгкую працу пчаляра.*

**Мікола КОТАЎ**



### Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 16

***Уздоўж***

**7.** Марачкін. **8.** Саркафаг. **10.** Шлях. **11.** Біяфільтр. **12.** РБМК. **15.** Бентас. **18.** Атрута. **19.** Легасаў. **20.** Клімат. **21.** Студня. **24.** Грушавы. **26.** Правік. **27.** Майдан. **30.** Блок. **32.** Ігнаценка. **33.** Уран. **34.** Скамарох. **35.** Плутоній.

***Упоперак***

**1.** Кавальер. **2.** Гарох. **3.** Ніобій. **4.** МАГАТЭ. **5.** Хамер. **6.** Дазіметр. **9.** Сігнал. **13.** Магільнік. **14.** Пташнікаў. **16.** Серабро. **17.** Паставы. **22.** Ушэсце. **23.** Пралеска. **25.** Пажарнік. **28.** Агарод. **29.** Скобля. **31.** Карма. **33.** Устой.

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**ВЕВЯРЭСК** – летапісны горад, што ўпамінаецца ў «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» (канец XIV ст.) сярод гарадоў ВКЛ. Наконт яго месцазнаходжання ў даследчыкаў ёсць розныя версіі: адны адназначаюць, што ён існаваў каля в. Касцянёва Шчучынскага раёна, а назву выводзяць ад р. Ваверка, іншыя лічаць, што Вевярэск існаваў на месцы сучаснай в. Ваверка Лідскага раёна.

**ВЕГНЯР ВАЦЛАЎ РАМАН** – польскі крытык пачатку XX ст., які прысвяціў манаграфію даследаванню беларускай літаратуры «Маладая Беларусь» («Swiat slowianski» («Свет славянскі»), студзень-сакавік 1912, Кракаў). У ёй шмат трапных назіранняў пра творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны. Даследчык са спагадай аднёсся да нацыянальна-вызваленчага руху беларускага народа, высока ацаніў творчасць Я. Купалы і Я. Коласа.

**ВЕЖА** – збудаванне, што архітэктурна ўзвышаецца над асноўнай пабудовай. Бываюць самых розных формаў, завяршаюцца таксама па-рознаму (шатры, у купалы і інш.). Яны ўзніклі ў глыбокай старажытнасці як абаронныя і сігнальныя збудаванні, а пасля паступова сталі важным элементам кампазіцыі грамадскіх і культавых будынкаў. Шырока распаўсюджваліся ў Сярэдневеччы.

На беларускіх землях абарончыя драўляныя вежы ўзводзіліся на гарадзішчах ранняга жалезнага веку (в. Валадарск Рэчыцкага раёна). У 2-й пал. XIII ст. пабудаваны першыя мураваныя вежы – данжоны (Камянецкая, Брэсцкая, Тураўская вежы). З XIV ст. мураваныя 4-гранныя вежы, злучаныя з абарончымі сценамі, пачалі выдзяляцца ў замках (Лідскі, Крэўскі замкі), мелі жылыя, гаспадарчыя, культавыя (капліцы) памяшканні. У замках XV–XVII стст. вежы выйшлі за плоскасці сцен і сталі галоўнымі апорнымі мясцінамі абароны, пабольшала іхняя колькасць (у Наваградскім замку ў XVI ст. было 7, у Полацкіх замках – 9, у Віцебскіх замках у сярэдзіне XVII ст. – каля 30). У большасці беларускіх замкаў XVI–XVII стст. вежы драўляныя, у некаторых мелі дрэва-мураваную канструкцыю (у Віцебску, Оршы). Мураваныя замкавыя вежы ў архітэктуры стыляў готыкі і рэнесансу аздабляліся сістэмай нішаў, паяскоў і інш. элементамі дэкору. Заглыбленыя часткі сцен бяліліся вапнай, выступы мелі натуральны колер чырвонай цаглянай муроўкі, што стварала 2-колернае вырашэнне фасадаў, найбольш цікавае ў архітэктуры Мірскага замка. Розныя па аб'ёме і форме называліся пасвойму – «бычкі», круглікі, васмерыкі. Сцены абарончых вежаў прарэзваліся байніцамі, амбразурамі і інш.



*Менская брама з вежай (рэканструкцыя Ю. Зайца)*

Адметны тып вежаў – брама, у ніжнім ярусе якой быў праезд у горад, замак, манастыр і інш., у верхніх размяшчаліся абарончыя, гаспадарчыя, культавыя памяшканні. У XVIII – пачатку XX ст. вежы як архітэктурнае збудаванне пачалі выкарыстоўваць у палацава-паркавых ансамблях, у манастырах і кляштарах. У беларускім дойлідстве вежы розных відаў служылі і элементам кампазіцыі ратуш (Магілёўская, Віцебская). У 2-й пал. XIX – пачатку XX ст. пабудаваны водапанорныя вежы з рысамі стыляў псеўдарускага, несапраўднай готыкі, «мадэрн» і інш. у Гродне, Бабруйску, Магілёве, Гомелі, Мінску. У сучаснай беларускай архітэктуры вежападобныя кампазіцыі таксама прысутнічаюць у гарадабудаўніцтве (ансамбль Прывакзальнай плошчы ў Мінску). Ёсць жылыя дамы, прамысловыя, сельскагаспадарчыя пабудовы вежавага тыпу.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 27.04.2006.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0056609 ад 27.02. 2004 г.)
Заказ 663.
Тыраж 1540 асобнікаў.